Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 6. Вільня, 8 красавіка 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Ціхая вул. 4, (альбо Міцкевіча 15) кв. 20. Тэлефон № 1207 | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2—65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Байкот ці супрацоўніцтва?

Адносіны, якія істнавалі паміж народамі Польшчы ў працягу апошніх пяцёх гадоў, можна акрэсьліць адным страшным словам: байкот. Гэты байкот прыняў арганізованыя формы яшчэ пры выбарах у Сойм, у 1922 годзе. З аднаго боку блёк нацыянальных меншасьцяў, а з другога боку разгул эндэцыі і польскага шовінізму, — вось адкуль пачынаецца той ланцуг, які скаваў творчую энэргію народных масаў і пакіраваў яе ў фальшывым кірунку нацыянальнае ізоляцыі, ненавісьці, скрытае і адкрытае барацьбы.

Ня час сягоньня шукаць вінаватых. Гісторыя будзе бязьлітаснаю, як для глупстваў польскага, так і беларускага шовінізму.

Але час ужо падсумаваць вынікі байкоту, час зразумець, што так далей, як было,—быць ня можа.

А было дрэнна. Урады, якія выходзілі з лона Сойму на працягу ўсіх пяцёх гадоў, насілі на сабе сьлед польскага шовінізму і байкатавалі самыя элемэнтарныя культурныя і нацыянальныя запатрабаваньні беларусаў і украінцаў. За імі валаклася бюракратыя і наогул уся адміністрацыя. Найлепшыя, найразумнейшыя адзінкі нічога не маглі зрабіць проці гэтае сыстэмы шовінізму і байкоту. І мы бачым, як сьледам за забойствам першага прэзыдэнта Нарутовіча яны адыходзяць ад кіраўніцтва дзяржаўным жыцьцём — адыходзяць і чакаюць таго крызысу, які з няўхільнасьцю жалезнага закону надыходзіў...

З другога боку, з боку беларускага і украінскага мы бачым праявы нацыянальнага байкоту і шовінізму ў іншых формах, але таксама згубных.

Беларускія і украінскія паслы, папаўшыя ў Сойм з блёку нацыянальных меншасьцяў, зьверыўшыся ў Сойм, дзе яны сядзелі, і ўрады, якія гэты Сойм выбіраў, чамусьці зьверыліся і ў творчыя сілы польскага народу. І замест таго, каб шукаць сабе саюзьнікаў сярод здаровае польскае опозыцыі і цьвёрда стаяць на грунце ідэяў незалежнасьці Польшчы, Беларусі і Украіны, замест таго, каб глядзець у будучыну і рыхтавацца да гэтае будучыны, заблуталіся ў соймавых інтрыгах, у розных «орыентацыях» на Літву, Нямеччыну, Саветы і г. д. — і павялі народныя масы і народную душу на шлях байкоту, на шлях згубны і небясьпечны, бо адна справа байкатаваць нацыяналістычны польскі ўрад і большасьць польскага сойму, а другая справа — байкот нацыянальны, байкот народу, яго культуры, яго звычаяў, традыцыяў, гаспадарчага жыцьця, гісторыі. І вось у гэтым і была галоўная партыйная памылка беларускіх і украінскіх паслоў, якія па сутнасьці свае працы і палітыкі

аказаліся антыподамі польскае эндэцыі і за гэтаю эндэцыяй ня бачылі польскага народу і яго адраджэньня.

Няхай беларускія і украінскія паслы гавораць радыкальныя прамовы ў Сойме, няхай называюць сябе левымі і крайнімі левымі, няхай лічаць сябе хадэкамі, эс-дэкамі, энпэхоўцамі, грамадзістымі і г. д. — ня ў словах і назвах істота рэчаў. Істота ў тым, што калі хто ня верыць у адраджэньне і незалежнасьць суседняга народу, хто не шануе яго сьвятыняў, той ня можа па сутнасьці сваёй добра верыць і ў адраджэньне свайго ўласнага народу.

Польскія эндэкі не шанавалі нас і украінцаў і хацелі вясьці польскія народныя масы ў пекла нацыянальнае ненавісьці і байкоту нашых справядлівых дамаганьняў. І што-ж мы бачым сягоньня? Эндэцыя сходзіць сягоньня з палітычнае арэны. Народныя польскія масы гарматамі і кулямётамі расстралялі ідэі эндэцыі і сягоньня гэтая эндэцыя зьяўляецца толькі перажыткам, падобным да тае сьляпое кішкі, якую хірурга мусіць выразаць, каб уратаваць арганізм ад сьмерці.

Такі самы лёс чакае і тыя палітычныя групкі беларусаў і украінцаў, якія зьверыліся ў ідэі супрацоўніцтва і згоды польскага і беларускага народаў і гатовы ўсадзіць нож у сьпіну польскай незалежнасьці. Ставім тутака ўсе кропкі над „і“. — Ня хочам быць прарокамі. Але той блёк нацыянальных меншасьцяў, які істнаваў да гэтага часу і стварыў хворыя зьявішчы байкоту, мусіць памёрці і памрэ. Ня блёк нацыянальных меншасьцяў, а блёк Народаў Польшчы, блёк адраджэньня і незалежнасьці іх — вось, па нашай думцы, адзіная ідэя, якая маець будучыну, якая праб'ець кітайскую сьцяну байкоту, ізоляцыі, ненавісьці і згубнае нацыянальнае барацьбы. І гэты блёк трэба рыхтаваць ня ў Сойме, не за сьпіною народаў, а тут на месцы, на кожным кроку нашага палітычнага, культурнага і гаспадарчага жыцьця. Гэта трудная работа, бо гэта ня соймавая гаварыльня, а само жыцьцё якое трэба папраўіць, пакіраваць на новы шлях. Байкот, які губіць нашыя сілы, мусіць памёрці і адыйсьці ў мінулае. Здаровыя творчыя элемэнты ўжо становяцца на гэты шлях і з радасьцю мы ад'значаем, што ўжо сягоньня пачынаецца супрацоўніцтва на грунце гаспадарчым у земляробскіх гуртках, у кооперацыі і г.д. і пачынаець гэтае супрацоўніцтва беларускі селянін, які ні на каго не „орыентуецца“, але толькі на свае ўласныя сілы і свой здаровы розум. Гэта першыя расткі, прадвесьнікі новае вясны адраджэньня нашага краю, якім трэба даць вырасьці, якіх трэба атачыць увагаю і пашанаю і даць ім разрасьціся ў магутны народны рух адраджэньня і супрацоўніцтва ня толькі на грунце гаспадарчым, але і на грунце культурным і палітычным. І мы верым, што ідэя супрацоўніцтва будзе знаходзіць усё больш і больш прыхільнікаў сярод нас, беларусаў, як і сярод палякоў. Яна перакінецца ў народныя масы і застанецца ня толькі на словах, але прымець рэальныя

# Успаміны з Пэрсіі.

*(Гл. № 5 „Б.Д.“).*

На другі дзень я быў ужо ў горадзе Баку, і праз некалькі гадзін пасьля прыезду ўжо сядзеў у каюце пасажырскага параходу, які а гадзіне пятай пасьля паўдня меўся завязьці мяне ў Энзэлі, важны партовы горад Пэрсіі.

Маючы некалькі гадзін часу, я аддаў свае рэчы пад апеку Карапэта, каторага знайшоў у Тыфлісе на кватэры яго дзядзькі, даволі багатага купца, сам пайшоў аглядзець горад.

Ня буду апісваць яго, бо гэны асяродак багатага прамысловага раёну, які дабывае з зямлі нэфту і, перарабіўшы яе на газу, бэнзыну, мінэральныя алеі і г.д., высылае прадукты свае вытворчасьці далёка за межы Расеі, павінен быць даволі знаёмы чытачом.

Скажу толькі, што, дзякі свайму прамысловаму характару, горад гэны пад уплывам вялікага ліку чужынцаў, якія прыплылі сюды разам з загранічным капіталам, вызбыўся амаль зусім, гэтак характарнага для гарадоў Каўказу, свайго нацыянальнага вобліку, і мае інтэрнацыянальны характар. Толькі грамады насільшчыкаў, чорнарабочых і жабракоў, якімі кішыць бакінскі порт з іх усходняй, нейкай гаркавай і незразумелай мовай, чорнымі вочамі, ў якіх ад часу да часу загараецца агонь, прыпамінаюць нам, што гэта ня польская Лодзь, не англіцкі Манчэстэр, а горад калісьці гордых сыноў Каўказу, стогнучых пад пятою Масквы.

Там, дзе шыкарныя палацы, асабнякі, там, дзе багацьце і роскаш, выдраная з нетраў Каўкаскіх гораў—там вы ня ўбачыце яе сыноў.

Месца іх на брудных вуліцах аколіцаў Баку, ў Бакінскім порце, на фабрыках і заводах Баку. Але досьць аб Баку.

На параходзе маім, усё рыхтуецца да адходу. Працуе пад'ёмны кран (машына для падняцьця ця-

формы, карысныя для абодвых народаў і страшныя для ворагаў нашага краю.

Байкот ад'жыў. І хто гэтага не разумеець, хто ня хоча гэтага зразумець, той ходам падзеяў будзе так сама, як ідэя байкоту і ненавісьці, выкінуты за борт жыцьця. Супрацоўніцтва—вось адзіны шлях, на які павінны стаць народы нашага краю.

---

МАЛЕНЬКІ ФЭЛЬЕТОН.

# НАЙГОРШАЯ ЛАЯНКА.

Усім ведама, што найбольш брыдка і найчасьцей лаюцца маскалі. Кроку ня ступіць маскаль, каб ня вылаяцца, што трэцяе слова — лаянка. Лаецца днём, лаецца і ночкай, аб лаянках сьніць у снох сваіх, лаець іншых людзей, лаянкамі думае і, думаючы, лаянкамі гаворыць сам з сабою.

Адным словам, лаянка так уелася ў жыцьцё маскаля, што нават прыказка ёсьць: „лаецца, як маскаль“.

Расейцы гэтак ужо прывыклі да свае лаянкі, што яна рэдка калі выводзіць злаенага з роўнавагі і найчасьцей ня выклікае ніякае рэакцыі з яго боку.

Гэтак сама і з лаянкай іншых народаў.

Аднак ёсьць адзін тып лаянкі, які выклікае адразу рэакцыю з боку таго, пад чым адрэсам яна скіравана, гэта тыя лаянкі, зьместу якіх лаены не разумее.

Каб пацьвярдзіць гэта, я прывяду некалькі фактаў.

У Ніжвім-Ноўгарадзе я быў сьведкай як лаяліся два маскалі. Лаяліся яны не са злосьці, але гэтак для гульні толькі, пахваляючыся адзін прад адным, хто больш умее лаянак.

Вось гэтак, калі адзін вычарпаў увесь запас сваіх лаянак і ня меў ужо, як той казаў, „чым крыць“ свайго праціўніка, зьвярнуўся да мяне і пытае:

Скажы, як злаяць пабеларуску, ды каб мацней!

— Ах ты „прасьціradла“,—парадзіў я.

— Ах ты „прасьціradла“,— бахнуў той.

Што, што, прасьціradла? — дый лясну́ў таго па твары і пайшла бойка, і то гэткая, што ледзь людзі разьнялі. Ніводзін з іх не разумеў, што знача слова „прасьціradла“ і калі я растлумачыў—памірыліся.

Другі факт:

У маёнтку Шчорсах быў завадзкі жарабец — пэршэрон.

Купілі яго ад графа Нэсэльродэ. Стары хурман Тодар, які даглядаў гэнага жарабца, назваў яго Нэсэльродэ.

Калі часам жарабец пачне бунтаваць і ня слухаць Тодара, той і пачынае лаяць яго: ах ты, Нэсэльродэ!

І гэтак прывык да гэнае лаянкі, што ня толькі жарабца, але і людзей пачаў лаяць Нэсэльродам. У ваколіцы ведалі аб гэнай лаянцы старога Тодара і ніхто ня гневаўся за яе. Але раз папаў Тодар аж у Вільню. І туткі, пры бутэльцы піва, паспрачаўшыся з сваім земляком, бахнуўшы яму з прывычкі:

— Эх ты, Нэсэльродэ.

— Ведаеце, ледзь не забіў той Тодара, так скрыўдзіся.

Альбо во, яшчэ трэці прыклад.

Палаяліся гаспадары ў вёсцы. Лаюцца, клянуць пабеларуску, штораз горай, ужо на расейскую лаянку перайшлі, але з роўнавагі ня выходзяць.

Калі раптам адзін з іх і бахнуў сваіму праціўніку:

— Ах ты, буржуй!

Азьвярэў той, аблаяны буржуем, кінуўся з кулакамі на суседа — і хто ведае, чым-бы ўсё гэта скончылася, каб не разьнялі людзі.

---

жараў), з лязгам і грукатам кідаючы ў цемры труму апошнія тавары, па мосьціку, з параходу на бераг, шмыргаюць насільшчыкі, ў адных кашулях і портках, спацеўшыя, змучаныя працай пад агнём паўднёвага сонца. Ажно з капітанскага мосьціку ляціць голас прыказу; кран уціх і замёр, забегалі людзі, адны сьпяшаючы на параход, іншыя з параходу на бераг — яшчэ хвіліна,—і мосьцік, злучаючы параход з берагам, ужо ўцягнены, вяроўкі, якія трымалі параход адвязаны, загудзела машына і параход, звольнены ад путаў, свабодна захістаўся на хвалях. З берагу махаюць хустачкамі і рукамі, чутны словы разьвітаньня, з капітанскага мосьціку ляціць каманда: „П о л н ы й х о д“, машыны загудзелі мацней, закружыліся мацней колы, ажно задрыжаў увесь параход і, ўрэзаўшыся ў цела мора, пэўна і сьмела паплыў ў неаб'ятныя далі.

Праз якіх-небудзь дзесяць-пятнаццаць мінут — горад пачаў ужо зьлівацца ў адну шэрую масу, а зьлева ад яго, з-за гораў, атуляючых Баку, пачалі вырастаць сотні шэрых высокіх будынін, у якіх з нетраў зямлі, па жалезных трубах. людзі дастаюць нэфту, гэнае найвялікшае багацьце Каўказу.

Хутка і горад і гэныя будыніны зьліліся ў адну шэрую пляму і прапалі на фоне гораў, ясна зарысованых на сінім пагодлівым небе.

Яшчэ хвіліна і параход, мінуўшы нейкі востраў, на якім, як мне казалі, жылі палонныя туркі, выплыў на чыстае мора, ад якога ляцеў нейкі глухі гоман і рокат, нібы стогн далёкай буры.

Гоман гэты, разбудзіў мяне з забыцьця, ў якое я папаў, угледаючыся ў прападаючы паволі ў сівай імгле бераг.

Мора паміж ім і параходам было ціхае, спакойнае.

(*Працяг будзе*)

**Дзядзька Пранук.**

---

I чаму даняла яго гэная лаянка? Шак ведама, што гаспадар-селянін, які мае хоць самы маленькі кавалак зямлі, але мае яе, як сваю ўласнасьць, запраўды і ёсьць буржуем, праўда — буржуем дробным.

Бо ня буржуй толькі той, хто ніякай маемасьці ня мае.

І вось дзеля таго, што гаспадары не разумелі, які зьмест мае слова «буржуй» — слова гэнае, кінутае ў парыве гневу адным з іх, гэтак моцна даняло другога.

Бо, каб разумеў ён, што сказаць: „ах ты, буржуй“ — гэта тое самае, што сказаць „ах гаспадар, ах ты, ўласьнік свае зямелькі“, — ну, то ведама, да бойкі не дайшло-б.

Дык вось мая парада: ня лайцеся, людзі, бо гэта брыдка і да бойкі вядзе, але калі ўжо ня вытрымаеце, дык ня ўжывайце лаянак, зьместу і значэньня якіх не разумеце, бо гэта — найгоршыя лаянкі.

*Л. Шастун.*

* * *

Не для славы імкнуся цябе я ствйрыць,
Мая песьня свабоднага ўзьлёту;
Я хачу праз цябе, шмат аб чым гаварыць,
Выліць душу сваю, што запалам гарыць,
Абдае маю жарам істоту.

Не для тых яна будзе з вусн ліцца, гучэць,
Каго песьціць жыцьцё дзікім шалам,
Немагчыма ім сумны мотыў зразумець
Песьні-жальбы мае, што ад сэрца ляцець
Будзе ў далеч няўстрыманым валам.

Ты, радзімы прастор, ты ацэнку ёй дай,
Абярніся у сьпеў салаўіны
І вячэрняй цішой яе ўстрэнь, прывітай
Там, дзе стогны чуваць, дзе гаротны ратай
Цяжкі крыж нясе маткі - краіны.

Дзе ў гразі векавечнай пакуты свае,
Ў цемнаце гіне ён, небарача,
Ўжо змагацца з бядой яму сіл не стае
Хто-ж спачуе яму, хто сьлязінку пральле,
Над жыцьцём яго нудным заплача?

Хіба ты, гэй, магутны спахмураны бор,
Нямы сьведка ягонай нядолі,
Ціхім гымнам ўзьнясеш гэту крыўду да зор;
Хіба ты віхура, наляцеўшы з-за гор,
Скавытнеш ліхім енкам у полі.

Там багацьця размах, там палацы - муры!
Льюцца песьні, папойкі крыніцай,
А тут... сьлёзы і пот, ціхі скон без пары...
Сумна... Песьня мая, загрымі-ж ты ўгары,
Шугані з цёмных хмар навальніцай.

Хваляй шумнаю змый бедаў крыўды-сьляды,
Дадай сіл ты працоўнай далоні,
Сонцам ясным заглянь ў твар пануры, бляды
Братоў бедных маіх — хай пад гымн твой сьвяты
Зацьвітуць шчасьцем родныя гоні.

*Міхась Васілёк.*

Вільня, 2.IV. 1927.

# АД РЭДАКЦЫІ.

Рэдакцыя газэты „БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ“ маець арганізаваць

**СЕТКУ СВАІХ КОРЭСПОНДЭНТАЎ НА ПРОВІНЦЫІ.**

Дзеля гэтага зьвяртаемся да ўсіх, хто можа пісаць, каб прысылалі свой адрэс, імя, прозьвішча (да ведама Рэдакцыі) і варункі, на якіх згодны супрацоўнічаць у газэце. Пажадана пробная корэспондэнцыя.

## Аб гэтак званай „беларусізацыі“ Б.С.С.Р.

*(аб прамове камуністага Саўліча).*

У пэўных колах беларускага грамадзянства ў Польшчы шмат гаворацць аб нацыянальнай палітыцы бальшавікоў і аб так званай „беларусізацыі“ — гэта значыць аб пераводзе на беларускую мову ўсяго савецкага апарату. Аб тым, як там праводзіцца „беларусізацыя“, лепей бязумоўна ведаюць беларусы таго боку. Нажаль, тут у Польшчы беларускі селянін і інтэлігэнт аб гэтым ведае мала і гэта стварае ненармальны ўхіл у беларускім руху. Дык вось, каб даведацца, як там усё робіцца, паслухаем, што гавораць аб гэтай „беларусізацыі“ некаторыя з камуністых-беларусаў на X зьездзе камуністычнае партыі Беларусі ў Менску, ў 1927 годзе.

Перад намі прамова аднаго такога беларуса, які яшчэ верыць у маскоўскія „добродетели“, прамова нікому невядомага камуністага Саўліча з Аршаншчыны. Ён выступіў падчас спрэчак па палітычнаму дакладу кіраўніка КПБ Крыніцкага і разануў праўду ў вочы. Дзякуючы сваёй шчырасьці, ён нагаварыў шмат няпрыемных рэчаў аб тым, як праводзіцца гэтая „беларусізацыя“ ў БССР. Падаём яго прамову ў скарачэньні, але водлуг стэнаграмы X зьезду КПБ. Вось што сьведчыць гэты камуністы-беларус:

— „Я спынюся на пытаньні аб нацыянальнай палітыцы ЦК. Можа я раблю памылку, што выступаю на беларускай мове (Расстаўленае ўсюды наша.—Рэд.). Але ў мяне ёсьць такі дакумэнт, надрукованы ў кніжцы, што беларуская конфэрэнцыя К.П.Б. увосень 1925 г. прыблізна напалову павінна быць праведзена ў беларускай мове. Каліісьці такім тэмпам, дык у 1926 годзе IX зьезд пра-

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## АРБА.

Аснаўною працаю над вырабам зямлі зьяўляецца арба.

Ужыванае для арбы прыладзьдзе, плуг — гэтая галоўная зброя земляробскае працы ў сваім дзеяньні на зямлі спаўняе цэлы рад функцыяў, якія можам падзяліць і адрозьніць гэтак:

Перш за ўсё плуг падцінае скібу, гэта знач. аддзяляе верхні пласт ад глыбейшых, перарывае паўстаўшую паміж імі зьлітнасьць і гэтым вытварае варункі, дзякуючы якім выразна адрозьніваем жывы пласт ад мёртвага. Далей плуг адварочвае скібу, аснаўным чынам зьмяняючы уклад пластоў. Верхні, задзярнелы пласт кладе ўніз, у рэзультаце чаго пачынаецца хуткае будьвеньне расьлінных астаткаў; сподні пласт выварочвае наверх, прыводзіць у злучэньне з паветрам і набіраньне яго. Гэткім чынам, жывы пласт ува ўсім складзе, а таксама гной ці навозы, пакольні былі датарноўванымі, як мае быць вымешваецца.

Нарэшце, плуг падрэзаную скібу крышыць, робіць пульхным увесь жывы пласт, перарывае зьлітнасьць паміж частачкамі, надаючы гэтак паруханай ральлі грудкаватую будову, неабходную для жыцьця расьлінаў.

Бяручы, як аснову, гэты вышэйпрыведзены падзел функцыяў плуга, будзем далей разглядаць агульныя правілы пры арбе, ўсялякія спосабы яе выпаўняньня, нарэшце будову і заданьне розных тыпаў плуга.

Пачынаючы з агульных правілаў мы павінны супыніцца над тым, калі трэба араць зямлю, і якія варункі ёй найбольш спрыяюць, каб рэзультат арбы быў добры.

Пары году для арбы выбіраць ня можам, у гэтым сэнсе мы зусім залежныя ад нашага клімату. Сьнегавы пакроў, а таксама й маразы ставяць для арбы непераможную перашкоду. Часу жыцьця расьлінаў у нашых варунках нармаваць ня можам; пакіданьне ўгораў, якія можна летам араць, трэба кінуць, як неэканомнае і мала згоднае з мэтай. Дык застаецца нам кароткі вясьняны пэрыяд перад сяўбою, а таксама й восень. Увосень ізноў-жа мы надта зьвязаны часам, калі йдзе аб выгараньне зямлі пад засеў азіміны і нарэшце найболей свабоды маем дзеля падрыхтаваньня зямлі пад засеў ярыны.

У межах пакіненых нам вонкавымі варункамі пораў року, трэба адно памятаць, што нельга араць зямлі занадта сухое або занадта мокрае.

Высушаная зямля пазбаўлена таго дзейніка, які ўплывае на згруджваньне паасобных зярнят пяску і гліны, гэта знач. вільгаці. Лёгкія землі мала шчыльныя, будучы аранымі ў часе сушы, распадаюцца адразу на складныя часьці, кожнае зерня асобна, або распыльваюцца. Цяжкія і тугія землі пры празьмерным высушэньні маюць усе свойствы скалы. Скіба не даецца крышыць, адвальваецца цэлымі грудамі.

Нельга таксама араць і занадта вільготнае зямлі. Зашмат напоеная вільгацяй зямля таксама ня будзе крышыцца за плугам, а замест гэтага скіба, перасоўваючыся па лемяшы, замазваецца і творыць на паверхні бліскучую, клейкаватую масу. Таксама замазваньне выступае і на дне баразны. Калі гэткая скіба перасохне, дык з замазанае паверхні робіцца вельмі цьвёрдая скарынка, зьнішчэньне якое зьвязана з паважнай труднасьцяй.

Глыбіня арбы павінна быць датарнована: 1) да варункаў грунту і 2) да таго, з якою мэтаю яна робіцца.

Жывы пласт, г. знач. той, які варушым плугам, не заўсёды адказвае глыбіні, на якой грунт у падгрунт пераходзіць. У глыбока ўраджайных землях жы-

---

водзіўся-б на 75 процантаў на беларускай мове, а X Зьезд, у сьнежні 1927 году, як мы бачым па дакладах, а ні слова не гаворыць пабеларуску!

Крывіцкі з месца: „Бо Гомель быў далучаны“.

Саўліч: „На гэта ня трэба зварочваць увагі. Сёньня Гомель далучаем, а заўтра можа і Смаленск!

Я лічу, што трэба мець пэўны напрамак, а ня кідацца з боку ў бок.

У нас ёсьць прыказка, што калі Крыніцкі знаходзіцца ў Маскве і там яго накруцяць, дык ён—за беларусізацыю, а як адыйшоў крыху, дык і беларусізацыя адходзіць“. (Воплескі. Сьмех).

Аб так званай беларусізацыі газэты „Звезда“— Саўліч падае такі цікавы кавалак:

„У мяне,—кажа ён,—ёсьць у гэтай-жа кніжцы другі пункт: прызнаць мэтазгодным мяшаную мову для „Звезды“, каб канчаткова пераход на беларускую мову гэтае газэты зрабіць да канца 1926 году. А цяпер пабачым, як „Звезда“ „беларусізуется“. У сягоньняшнім нумары (ў той дзень як прамаўляў Саўліч) напісана: „сялянства ўжо ведае, што такое дыктатура пролетарыяту і разумее эканамічную прадпасылку гэтага панаваньня рабочай клясы“. На „панаваньні“ Беларусі не пабудуеш. Гэта глупства выходзіць, а не беларусізацыя!..

Цяпер яшчэ адно пытаньне,—дакладае Саўліч,— як праводзіцца нацыянальная палітыка ў Смаленскай губ., у Чырвонай арміі, ў Беларускім ваенным вокрузе. Не зважаючы на тое, што ёсьць пастанова нашага Ц. К. аб пераходзе тэрыторыяльнага фармаваньня 1925 - 1926 г., а таксама і беларускага корпусу на беларускую мову і аб

вы пласт будзе заўсёды меншы за пласт грунту і ня трэба баяцца ў гэткім выпадку завялікага паглыбленьня, якое, агулам бяручы, зьяўляецца заўсёды пажаданым. Чым глыбей варушым зямлю, тым лягчэй яна напойваецца вільгацяй, робіцца больш прадуўною і расьлінныя карэньні маюць большы прастор, у якім лёгка могуць разрастацца і знаходзіць корм.

У мелкіх грунтох трэба асьцерагацца выцяганьня наверх мёртвае, не даволі праветранае, зямлі, бо можна зрабіць зусім немагчымым абыход насеньня і разьвіцьцё расьліны.

Гэта ня значыць, каб наагул ня трэ' было імкнуцца да павялічэньня пласта грунту. Але трэба гэта рабіць паступова, шляхам спэцыяльнага вырабу, які завецца паглыбляньнем, і выпаўняецца спэцыяльна для гэтае мэты ўжыванымі прыладамі, палягаючы на варушэньні гэтых глыбейшых пластоў, бяз вывыцягваньня іх наверх. І толькі па колькіразовым узварушэньні ніжэйшага мёртвага пласта паглыбяльным апаратам можна яго звычайнаю арбою выцягнуць наверх і зьмяшаць з рэштаю жывога пласта. Трэба гэта заўсёды выпаўняць у часе перад'зімовае арбы, мэтаю якое ёсьць якраз падмога праветраваньню зямлі, а асабліва глыбейшых пластоў яе.

Калі мэтаю арбы зьяўляецца прыкрыцьце насеньня або навозу, дык яна павінна быць зроблена мелка, каб лёгкі доступ паветра рабіў немагчымым пушчаньне храсткоў, або расклад навозу.

Арба, якая мае на мэце вымяшаньне ўгноенае ўжо раней і выдабрэлае зямлі, павінна быць зроблена да сярэдняе глыбіні.

Хаця разуменьні: „мелкая", „сярэдняя", „глыбокая" арба зьяўляюцца умоўнымі, залежна ад варункаў грунту і датарноўваных заўсёды вырабаў, але ўсё такі прынята зваць мелкаю арбу да 4 цаляў, сярэднюю—ад 4 да 6 і глыбокаю—больш як 6 цаляў.

Вялікае таксама маюць значэньне адносіны шырыні скібы да глыбіні баразны, таму што ад гэтага залежыць ступень адвароту скібы.

Калі арэм задзірванелую зямлю і нам ідзе аб тое, каб расьлінныя астаткі якнайхутчэй збудьвелі, дык мусім скібу адвярнуць, як трэба, так, каб дзірван якнайшчыльней прылягаў да дна папярэдняе баразны. Калі йдзе аб прасушэньне скібы, як напр. пры барацьбе з пыраем, дык трэба яе адвярнуць якнайслабей.

## Ня час узірацца! — Пара за працу узяцца!

Бядота і бяднота нашага беларускага грамадзянства ў значнай меры тлумачыцца занепадам земляробска-гаспадарчай коопэрацыі. Мы больш прызвычаіліся палітыкаваць, трымаючыся тых пуцявін, якія праектуюцца нам рознымі „дабрадзеямі", што абяцаюць нам залатыя горы ды солацка пяюць аб сьветлай будучыні для беларусаў, а тымчасам, трымаючы руку ў кішані, твораць нам камбінацыю з трох пальцаў. Аднак, усё гэта зьлячымае, калі большасьць нас, сялян, уразумее, што кавалямі лепшае долі зьяўляемся мы самі, а магчыма гэта тагды, калі, выцьверазіўшыся ад лятункаў, возьмемся за больш рэальную працу праз агульна-сялянскія арганізацыі ў вобразе земляробскіх гурткоў, якія па сваёй істоце найболей будуць задаваляючымі пры сучасным нашым становішчы. Такі гурток на вёсцы—гэта акадэмія, куды бяз розьніцы нацыяў павінны зьбірацца сяляне і абменьвацца паміж сабой практычнай ведай з гаспадарчага аддзелу; асабліва малодшыя (яны-ж менш практычныя) гаспадары мусяць пераймаць гэту веду ад старэйшых нашых „дзядзькоў", якія маюць найбольш практыкі ў вядзеньні гаспадаркі. Дзеля таго-ж, што ў нас спэцыялістых-беларусаў, працуючых на земляробска-гаспадарчай ніве, ёсьць нязначны лік, праз што яны ня могуць праяжджаць па вёсках з мэтай высьвятленьня новай, больш карыснай, мэтоды аб вядзеньні гаспадарак, то мы павінны зварочвацца праз гурткі да адпаведных спэцыялістых аграномаў, коопэратараў і г. д.

---

увядзеньні беларускае мовы і беларусізацыі для пастаяннага складу гэтых часьцей войска,—г э т ы я п а с т а н о в ы ў ж ы ц ь ц ё н е п р а в о д з я ц ц а".

Далей:

— „Калі ў Наркамземе,—сьведчыць Сауліч,— знаходзіцца 95 процант. беларусаў, а 5 проц. іншых нацыянальнасьцяў,—то ў Савеце Народнае Гаспадаркі наадварот—95 процантаў іншых нацыянальнасьцяў і толькі 5 проц. беларусаў. Колі возьмем пошту і тэлеграф, або чугунку, то там жыдоў трэба і ўдзень шукаць з агнём, а ў Белгострої, альбо ў Цэ-Рабкопе (коопэрацыі)—наадварот... В о с ь д з е т р э б а п р а в о д з і ц ь б е л а р у с і з а ц ы ю!"

Вядома ўжо, што акадэмічная конфэрэнцыя з боку палітычнага зусім не ўдалася, бо выявіла моцную плынь беларускага „нацыяналізму". Маем уражаньне, што ўся гісторыя з „нацыяналізмам" робіцца дзеля таго, каб скінуць апошніх сьвядомых беларусаў з іх пасадаў і выслаць некаторых уплывовых беларусаў далей. Сауліч бярэ гэтых беларусаў пад сваю абарону.

— В е л ь м і в о с т р а, к а ж а ё н, б ы л о п а с т а ў л е н а н а З ь е з д з е п ы т а н ь н е з б е л а р у с к а й а к а д э м і ч н а й к о н ф э р э н ц ы я й і х т о-ж а к а з а ў с я в і н а в а т ы м? І г н а т о ў с к і і Б а л і ц к і. Ня трэба ўскладаць віны на двух. — В і н а в а т ы ў в е с ь Ц. К., ш т о н я ў в ё ў у г э т у ю к а м і с і ю р а б о ч ы х а д в а р с т а т у. (Воплескі. Сьмех).

Вось і ўся іронічная, ядавітая прамова, якую сказаў Сауліч і якога, як відаць, падтрымала моральна значная частка X Зьезду. Прамова гэтая бязумоўна цікавая і мае палітычнае і грамадзкае значэньне. Яна ўскрывае тыя працэсы, што нарастаюць у Б. С. С. Р., працэсы нацыянальнае опозыцыі.

Кожны, хто зацікаўлены беларускаю проблемаю,

якія ў форме рэфэратаў на земляробска-гаспадарчыя тэмы павінны высьвятляць нам пляны гаспадараваньня. Другім значным заданьнем гурткоў зьяўляецца пашырэньне нацыянальнае сьвядомасьці сярод беларускае масы, праз распаўсюджваньне рознае літэратуры, як у беларускай, так і ў польскай мове, больш популярных часопісаў, з якіх найпатрэбнейшымі і пажаданымі зьяўляюцца: маючыя шырока, добра апрацованы гаспапарчы аддзел. Культурна-асьветная мэта мусіць гэтак-жа ўходзіць у галіну дзейнасьці земляробскіх гурткоў, праз адыграньне па іхняй ініцыятыве спэктакляў, даход з якіх скіроўваць, прыкладам, на з'арганізаваньне сельска-гаспадарчых бібліятэчак і г. д.

Дык яднаймася-ж, сяляне, ў падобных арганізацыях, выкарыстоўвайма, з чаго можна, паляпшайма і ўзмацняйма свае гаспадаркі, а добрае ўсё адклікнецца, калі не цяпер—адразу, то ў недалёкай будучыні, як дапнём сваіх мэтаў.

*Архіп Нясьвіжанін,*

## Гаспадарчыя парады.

### Пасадка фруктовых дрэваў.

Дужа часта здараюцца пытаньні, калі лягчей садзіць фруктовыя дрэўцы — вясной ці ўвосень? На гэткія пытаньні можна адказаць што веснавая пасадка дае лепшыя рэзультаты, чым васеньняя, але толькі тады, калі пасадачны матар'ял будзе загатоўлены ўвосень.

Загатаўленьне і зьберажэньне пасадачнага матар'ялу робіцца гэткім чынам. Прыкмечана, што ў нас па вёсках выкопваньне дрэўцаў вядзецца дужа няўмела і часта нават вырываюць дрэўцы напалову з абломанымі карэньнямі. Трэба ведаць, што чым акуратней выкапана дрэўца, тым больш шансаў на прыжыўленьне яго. Правіловая работа вядзецца вось як: каб выкапаць дрэўца, з аднаго боку яго выкопваюць равок глыбінёй ўроўні каранёў, а тады, пракапаўшы зямлю з другога боку, звальваюць дрэўца ў равок. Паваленае дрэўца лёгка ўжо вырваць, не папсаваўшы каранёў. Выкапаныя дрэўцы складаюць у кучу, засыпваюць карані зямлёй і гэтак лёжма, праз усю зіму, яны застаюцца да веснавой пасадкі. Пасадка маладых дрэўцаў робіцца так: выкапаўшы належнай шырыні і глыбіні яму, ўсаджваюць дрэўца, распраўляюць карані і засыпаюць чарназёмам так, каб не засталося пад каранямі пустога месца. Паверх чарназёму насыпаецца зямля, выкапаная з ямы. Утаптаць зямлю трэба толькі па краёх ямы, дзеля таго, каб не паламаць каранёў. Неабходна, каб быў скат у бок дрэўца, дзеля паліўкі і праходу дажджавой вады да каранёў. Пасадзіўшы дрэўца, зараз-жа трэба яго паліць. Паліць дрэўца трэбуецца ня менш аднаго вядра вады. Дрэнна робяць, калі ў яму кладуць гной і садзяць туды дрэўцы. Карысьці ад гэтага ня будзе. А калі здарыцца сухое лета, дык дрэўцы могуць загінуць. Дык рабем пасадку дрэва толькі вясной, загатовіўшы іх увосень.

Іван Тарыкоў.

### Пра малачарні.

Добра відаць разумееце, чаго трэба нам сялянам газэта «Беларускі Дзень», а відаць гэта з таго, што вядзе гаспадарчы аддзел, дзе можна знайсьці селяніну шмат добрых гаспадарскіх радаў. Усе беларускія газэты дагэтуль займаюцца пераважна і выключна палітыкай, ніводная не падумала прыйсьці з помачай селяніну ў гаспадарцы.

Дзякуючы гэтаму, хачу напісаць аб малачарстве з той думкаю, што, за нашым прыкладам, і другія пачнуць паважней займацца малачарствам, як адной з вельмі даходных крыніц у гаспадарцы.

У нас закраталіся людзі і стараюцца залажыць малачарню, ёсьць надзея што ад красавіка яна будзе пушчана ў рух. Малачарня закладаецца стараньнем «Земляробскага Гуртка». Аднак, з жалем мушу ад'значыць, што многа ёсьць сялян, каторыя вельмі няпры-

---

хто шукае шляхоў для беларускага руху, бязумоўна мусіць быць дакладна паінфармованы аб тым, што-ж там, у канцы канцоў, робіцца на Ўсходзе. І вось камуністы Саўліч адказвае нам на гэтае пытаньне:

— Вы пытаеце аб беларусізацыі? Ніякае беларусізацыі ў нас няма. Адно глупства ў нас, а не беларусізацыя. Вы пытаеце аб партыі? Ніякае беларускае камуністычнае партыі — няма, а ёсьць Расейская партыя, якая толькі называецца так „К. П. Б“ — але ўсю сваю працу вядзе парасейску і ў расейскай мове.

— Разумейце гэта беларусы,— як-бы кажа нам працьвярозіўшыся провінцыяльны камуністы. Разумейце гэта і зрабеце сабе адпаведныя вывады. Бязумоўна ў сваёй прамове Саўліч памыліўся шмат у чым і перш за ўсё ў тым, што ён абвінавачвае толькі Крыніцкага, а Маскву як-бы бароніць, уяўляючы сабе, што там сядзяць сьвятыя, бязгрэшныя людзі.

Крыніцкі ёсьць упаўнаважаны Масквы і яго палітыка ёсьць палітыка Масквы. Наіўна думаць, што ўся палітыка залежыць ад Крыніцкага, а Масква тут ні пры чым. Саўліч проста яшчэ не разумее таго, дзе ракі зімуюць. А зімуюць яны ў Маскве, якая хоча за ўсялякую цану пазбыцца тых апошніх беларусаў, якія сымболізуюць сабою ідэю праўдзівае беларусізацыі краю. Адгэтуль і паход проціў Ігнатоўскага і Баліцкага, паход проціў усяе беларускае інтэлігэнцыі, якую пачынаюць абвінавачваць у нацыяналізьме, нацыяналь-дэмакратызьме і іншых савецкіх грахох.

***Мінчук.***

хільна адносяцца да малачарні, яны, ня вераць у тое, што малако можа прынясьці даход, кажуць, „што ня мелі дагэтуль пацех з „Земляробскага Гуртка“ ды і цяпер малая карысьць. Карысьць будуць мець паны, шляхтуны ды асаднікі, яны маюць чым каровы карміць, ім даюць усё, чаго яны хочуць, таму і каровы іх даюць шмат малака. Мы, сяляне, калі і маем 2 — 3 каровы, дык кормім іх саломкай і дзякуем Богу, калі ёсьць капля малака“.

Падумаць, дык з аднаго боку і праўда, але добра разглядзецца то справа прадстаўляецца інакш. І гэтая справа ў тым, што пан ці асаднік хавае каровы малочныя і яму аплачваецца харчаваньне ды яшчэ маець даход. А сялянская карова мясцовай расы даець найболей 10 літраў малака. Палічыўшы па 20 гр. за літр, разам — 2 злоты. Гэтая карова праз пару зьядаець 1 пуд саломы—1 зл., 2 фунты сева—80 гр. ды прысыпкі на 20 гр., разам 2 зл. Бачым, што сялянская карова пракормліваець толькі сама сябе. Пан хаваець карову малочную, якая даець малако аж да цяляці ад 20 да 30 літраў у пару. Калі ўзяць 20 літраў па 20 гр.—разам 4 зл., на корм ідзець 2 зл. Можна палепшыць корм, усе-ж такі найменш 80 гр. у пару астаецца даходу, на год маем 292 зл. чыстага даходу з адной каровы.

Калі я так тлумачыў сялянам, дык яны ня мелі адказу, згадзіліся са мною, што трэба гадаваць кароў таксама, як іх гадуюць паны. Чыя тут праўда, судзеце чытачы. Нам трэба пазбывацца ўсяго, што нам шкодзіць або зьяўляецца бескарысным, а даставаць тое, што памагаець.

Верыць трэба ў дзесяць запаведзяў гаспадара, бо гэта дарога да дабрабыту.

*Мікола Шарамэт.*

в. Плішчаны,
Хаценскай вол. Вялейскага пав.

### Чаму-ж не засадзіць саду?

Многа сялян, каторыя ня маюць садоў, жаляцца, кажучы: „эх ты гора“, зьеў-бы цяпер яблычка або ігррушку ды іх няма. І зайздрасьць бярэць, як паглядзіш на суседзкі сад, асабліва калі вясной расквасуецца красачкамі, а ўвосень фруктамі. І калі станеш шукаць вінаватага гэтаму гору, успомніш бацьку свайго і пытаеш сам сябе: „чаму ён не засадзіў саду?“ А калі-б каго-нібудзь з вас спытаўся, а чаму ты ня садзіш, дык тлумачыўся-б, што шчэпаў ня маець, а калі і ёсьць дзе купіць, дык дарагія і г. д.

Праўда бяз шчэпаў саду не засадзіш, але-ж можна самому шчэпы выгадаваць, трэба толькі ахвоты і працы. Кожны сялянскі сын павінен дбаць аб тым, каб выгадаваць сад, калі яго няма. Замест таго, каб гуляць у карты, хлопцы павінны пашукаць у лесе ці дзе-нібудзь дзікіх яблыкаў ды ігрушаў; прынёсшы іх да хаты, вычысьціць і засадзіць у гародзе. Ўвосень назьбіраць зярнятаў і пасадзіць іх няглыбока. Каб ведаць дакладна, як выгадаваць сад, найлепш выпісаць па садоўніцтве кніжку, якая дорага не каштуець.

Аб сабе ня люблю хваліцца, але каб вам, дарагія чытачы, падаць факты, дык апішу, як я выгадаваў сад.

Маючы 11 гадоў, калі хадзіў у расейскую школу, дык мне папала ў рукі кніжка: „Як узгадаваць сад“. Хоць добра чытаць і ня ўмеў, але ўжо зразумеў і, дачакаўшы восені, ў 1914 г. пасеяў паўшклянкі яблыкавых ды ігрушавых зярнятаў так, як сеюць буракі. Вясной яны ўзышлі. Тады я іх расадзіў, адрываючы $^{2}/_{3}$ карэньня. Ўвосень яны выраслі на 2 пядзі і было іх 340 штук. Тады іх перасадзіў штука ад штукі на квадратнага паўаршына. На другое лета перакапаў 5 разоў зямлю паміж імі. Шчапіць з кніжкі навучыцца ня мог, як трэба шчапіць і кулізаваць паказаў мне мой вучыцель, якому на гэтым месцы дзякую. Гэтага лета ў жніўні ўсе

# Кітайская Нацыянальная Рэвалюцыя.

### Марш на Пэкін.

У Кітаі адбываюцца здарэньні, значэньне якіх сягоньня яшчэ трудна ацаніць.

Нацыянальная армія паўднёвага рэвалюцыйнага ўраду займаець горад за горадам, провінцыю за провінцыяй. У руках яе знаходзіцца ўжо Шанхай — прамысловая аколіца Кітаю з двох-мільённым насяленьнем. Застаецца не занятым яшчэ Пэкін—сталіца Кітаю, але ўпадак яе, калі здарэньні пойдуць натуральным шляхам без актыўнага ўмяшаньня чужынцаў — пытаньне часу і пры гэтым часу кароткага. Аб гэтым сьведчаць словы маршалка Чан-Кай-Шэка, які заявіў прадстаўніком прэсы, што яго арміі рознымі шляхамі ўжо рушылі на Пэкін.

— Наш марш будзе нядоўгі, — а як здабудзем Пэкін, тады над злучаным Кітаем падымем штандар незалежнасьці і згоды.

* * *

### Значэньне Шанхаю.

Заняцьце Шанхаю зьяўляецца паваротным пунктам у Кітайскай Нацыянальнай Рэвалюцыі, бо Шанхай—буйнейшы партовы горад Кітаю. Ён зьяўляецца адначасна і гаспадарчым цэнтрам усяго сярэдняга Кітаю. Дзякуючы таму, што Шанхай знаходзіцца каля самага ўпаду ў мора ракі Ян-Цзы (шырокая многаводная рака—шлях, па якім тавары перавозяцца ў Сярэдні Кітай), ён зьяўляецца той брамай, праз якую Англія праціскае свае тавары на кітайскі рынак.

Шанхай — вялізны горад з 2-ма міл. з лішкам насяленьня, які расьце з году ў год. Шматпавярховыя дамы, асфальтавыя шырокія вуліцы, вялікая

сваё дзічкі прыкулізаваў. Вясной 1917 г. кулізоўкі распусьцíліся; цераз лета рыхляваў зямлю 4 разы, за гэты час дрэўкі парасьлі на 1 — 1½ аршына. Ў 1920 годзе ў мяне ўжо быў сад з 50 штукамі фруктавых дрэваў. Рэшта шчэпаў дарасла ў 1920 годзе.

Ў гэтым годзе я ізноў пасеяў зярняты і так раблю штогод, кожную восень прадаю шчэпы, а сад мой дае шмат фруктаў. У верасьні 1924 году за добрую і ўмелую гадоўлю шчэпаў „Związ. Kółek Rolniczych z. Wileńskiej" нарадзіў мяне „пахвальным лістом і гадавой падпіскай „Tygodnika Rolniczego".

Трэба толькі захацець знайсьці вольную хвіліну і пасьвяціць яе маладому саду. Можна быць пэўным, што праца аплаціцца, бо апрача выгады ў гаспадарцы прынясе яшчэ даход. Канчаючы, зварочуюся да ўсіх бацькоў з клікам, каб не перашкаджалі сваім дзецям засаджваць сады, наадварот іх да гэтага заахвочвалі, бо як бачым, сад ня трудна выгадаваць, трэба толькі ахвоты.

*Зыдар Зарак.*

## Як захоўваць гной у хляве.

Захоўваць гной трэба ў моцна шчыльным стане, каб паветра даходзіла ў гной, як можна меней. Добры спосаб захаваньня гною ў хляве пад нагамі жывёлы. Пры такім спосабе захаваньня гною можна адтрымаць лепшы гной і вельмі многа гною. Падсьцілаць трэба, апрача саломы, мохам (добра прасушаным), торфам, сухім лісьцём. Тады мача будзе ўбірацца ў падсьціл і гной адтрымаецца вельмі добры, самы моцны. Лепей за ўсё рабіць так: вычысьціць гной з хлява, палажыць уніз таўсты да 4-х вяршкоў пласт сухога валакністага торфу, або моху, а па ім пасьлаць саломы. Потым, па меры таго, як жывёла будзе утоптваць салому ў торф, прыбаўляюць яшчэ саломы, торфу. Торф павінен быць заўсёды засланы саломай, каб жывёла ня мазалася торфам. Калі няма торфу, дык трэба прыпасаць сухога лісьця, але торф самы лепшы падсьціл таму, што ён вельмі добра ўбірае ў сябе мачу і пах калу і мачы. У хляве, дзе падсьцілаюць торфам, паветра заўсёды бывае чыстае, а жывёлы здаровыя.

## Як лячыць наравістага каня.

Кожны селянін ведае, што такое наравістыя коні, кожны бачыў іх ці нават сам меў.

Норавы—гэта не хвароба, гэта, можна сказаць, упартасьць, якая, як вам вядома, бывае ня толькі ў жывёлы, а і ў людзей.

Прымета гэтае ўпартасьці вось якая: конь у часе працы становіцца, ня хоча йсьці далей. Ён становіцца дубка, рве ўсё, што ні папала, кусае, кладзецца на зямлю, ня хоча ўставаць. Пагляд у наравістага каня дзікі, сам конь дрыжыць, пацее. Прычыны нораваў у большасьці залежаць ад саміх гаспадароў, якія груба абыходзяцца з канём, б'юць яго і інш. І часта можна бачыць, як наравістага каня так б'юць, так катуюць (каб выгнаць нораў), што ён кладзецца поўняжывым на зямлю. Так ня трэба рабіць, гэтак нораваў ня вылечыш.

Чым-жа іх лячыць? Толькі ласкай, цярпліва, добра адносіцца да каня, ня біць яго.

Толькі тады можна дабіцца добрых вынікаў. Хоць нораваў і ня выведзеш зусім, але усё-ж такі конь зробіцца лепшым.

## Як бараніць пчолы ад мышэй.

Каму з пчаляроў не даводзілася зімою бедаваць, што мышы нападаюць на вульлі? Адзін практычны пчаляр дае на гэта раду, якую ён ужо сам выпрактыкаваў. Мышы вельмі ня любяць мяты. Вось ён, як толькі паставіць вульлі на зімоўку, дык заўсёды накладзе ў вульлі і на памосьцэ і на вульлі мяты. Усе тыя гады, што клаў мяту, шкоды ад мышэй ня было ніякай, хоць мышэй было многа і летам і восеньню.

---

колькасьць аўтамабіляў, канторы рознастайных гандлёвых і прамысловых фірмаў і г. д. — ні ў чым не адрозьніваюць яго ад буйнейшых гарадоў Эўропы.

З 2-х мільёнаў насяленьня ў 1920 г. налічвалася толькі 25 тыс. чужаземцаў, але ўсё гаспадарчае жыцьцё знаходзіцца ў іх руках. У 1842 годзе Шанхай быў захоплены ангельцамі, а ў 1843 абвешчаны „свабодным" портам, адкрытым для заменнага гандлю. З гэтага часу ангельцы пачынаюць забіраць вялікія вучасткі зямлі, на якіх будуюць свае дамы, канторы, банкі і г. д. Да гэтага часу чужаземцамі занята лепшая частка Шанхаю, якая кіруецца сваімі ўладамі, мае свае органы кіраўніцтва, сваю паліцыю сваю гарадзкую раду, якая не падпарадкаўваецца кітайскім законам.

У адносінах гандлю Шанхай зьяўляецца адным з галоўных пастаўшчыкоў і спажыўцоў сусьветнага рынку. Агульная сума гандлю Шанхаю за 1920 г. складала 1.227.860.000 даляраў.

Таннасьць рабочых рук і шэраг іншых спрыяючых умоў далі магчымасьць чужаземцам пабудаваць вялікую колькасьць фабрык, заводаў і нават верфяў для пабудовы суднаў. У Шанхаі, ня лічачы кулі (чорнарабочых), ёсьць звыш 200.000 фабрычна-заводзкіх рабочых. Заработная плата над'звычайна нізкая— ад залатоўкі да трох злотых удзень пры рабочым дні ў 12—16 гадзін. Палажэньне Шанхаю і яго эканамічнае значэньне ставіць гэты горад у кітайскіх падзеях на першае месца нароўні з Кантонам і Пэкінам.

## Насяленьне Кітаю і яго склад.

Сусьветнае значэньне кітайскіх здарэньняў тлумачыцца тым, што Кітай налічвае найбольш насяленьня за ўсе народы зямлі. У 1923 годзе па прыблізнаму падліку ў Кітаі было 426 мільёнаў чалавек. Каля

А ў тыя гады, калі ён ня клаў мяты, мышы рабілі многа шкоды. Пчолам ад мяты нічога ня робіцца.

### Як пазнаць цельную карову?

Пытаньне: Як пазнаць ці карова цельная?

Адказ: Каб пазнаць, ці карова цельная, ці не,—трэба спрабаваць яе малако гэткім чынам: у сухую судзіну ўдаіць крыху малака і, ўзяўшы сухую саломінку, памачыць яе ў малаку, пасьля выняць і павісшую на ёй каплю малака страсьці ў шклянку з чыстаю халоднаю вадою. Калі карова ня цельная, дык гэтая капля, ледзь дакрануўшыся да вады, адразу распусьціцца ў ёй, і наадварот, калі карова цельная, дык капля малака, стрэсеная з саломінкі, пакуль пасьпее распусьціцца ў вадзе, дык дайдзе ледзь ня цэлаю да самага дна шклянкі. Гэтае зьявішча тлумачыцца тым, што малако цельнае каровы болей ліпкае, дзеля чаго і ня так хутка распушчаецца ў вадзе.

### Вялікі лік вашэй у авец.

Пытаньне: Маю нёкалькі авечак, якія пару дзён назад я астрыгла і заўважыла, што ледзь не ўва ўсіх вялікая колькасьць вашэй па ўсім целе. Як іх выгубіць?

Адказ: Каб зьнішчыць гэтыя паразыты ў авечак—раюцца розныя спосабы, з якіх найлепшы і найбясьпечнейшы будзе гэткі:

Трэба зрабіць мешаніну, зложаную з льнянага або рапейнага алею (можа быць таксама і сланэчнікавы) і звычайнае тарпатыны, якую дадаюць да алею. такім чынам, каб на 3 часьці тарпатыны была 1 алею; пасьля распушчэньня і поўнага зьмяшаньня да гэтага трэба дадаць невялікую колькасьць бэнзыны. Перад рыхтаваньнем трэба перш за ўсё алей крыху разагрэць на малым агні, каб быў цёплы, але негарачы. Гэткаю мешанінаю трэба вышмараваць авечку мягкаю шчоткаю або ганучамі, але ня ўсю, а толькі палавіну цела, бо іначай, дык магла-б задушыцца ад затрыманьня скуранога дыханьня, а на другі дзень цераз адну пару таксама вышмараваць другую палавіну цела. Значыцца, можна ў адзін дзень вышмараваць, напр., пярэднюю палавіну кожнае авечкі, а на другі дзень заднюю палавіну, каб ня было памылкі. Пасьля дзевяцёх дзён гэткае шмараваньне трэба паўтарыць, таму што пасьля гэтага часу гніды гэтых вашэй падрастаюць. Уціраць трэба ня надта моцна і нядоўга. Напамінаем, што абавязкова трэба раней разагрэць алей, пасьля ўліць да яго тарпатыну, а зьмяшаўшы дадаць бэнзыны, але гэта апошняе зрабіць ня ў кухні, а на двары для бясьпечнасьці. Нарэшце, неабходна вывязьці гной з аўчарніка і выбяліць сьцены.

## Корэспондэнцыі.

### За паноў трудзімся, а самі вінаваты.

Мусіць няма горшага жыцьця хлебаробу ўва ўсім сьвеце, як у Польшчы, а асабліва на Беларусі. Думаю, што так ёсьць з прычын наступных: Першая прычына і найбольшая гэта сусьветная вайна, якая многа шкоды зрабіла нашаму краю, другая—гэта палічычныя зьмены.

Дзякуючы гэтаму, зрабілася на хлебаробскім варстаце вялікая рана, каторую зможа залячыць толькі ўмелы дохтар. Такім дохтарам земляробскага варстату зьяўляюцца самаўрады, а перш за ўсё павятовы соймік. Соймік павятовы і пачаў лячэньне ад зьбіраньня падаткаў у розных формах. Разумеецца, без падаткаў не абойдзешся, але сяляне з боку тых установаў, якія падаткі ўстанаўляюць, ня маюць ніякай палёгкі. За падатковыя грошы Соймік купляе збожжа і штучныя гнаі ды інш., якія прадаець або пазычаець (жыта) сялянам. Дробны селянін (а такіх ёсьць найболей), зьмушаны голадам пазычыць у Сойміку вясной збожжа, мусіць плаціць 8 зл. за пуд, а ўвосень аддаваць грашмі, калі пуд каштуець 2 злоты. Вось і лячэньне — за 1 пуд 4 пуды.

Дзеецца гэта перш за ўсё таму, што мы, беларусы-хлеборобы, не стараемся выбіраць у самаўрады сваіх беларусаў—сялян, якія баранілі-б там нашы інтарэсы, а не выбіраем, дзякуючы зайздрасьці „што калі ня выбралі мяне, то няхай і ён ня будзе, а лепш пан“.

Гэткіх гутарак я чуў многа. Папаўшы ў раду, пан —

---

80°/о насяленьня складаюць сяляне, дробныя земляробы. Кітайская сялянская гаспадарка мае зямлі ад 10 му да 100 му (1 му = 1/8 дзесяціны) — гэта значыць прыблізна столькі, як і ў нас.

Рабочых кітайцаў у 1924 годзе было 4.850.000 чалавек — гэта значыць трохі больш як адзін процант усяго насяленьня.

Вельмі распаўсюджана жаночая і дзіцячая праца. У некаторых цэнтрах тэкстыльнай і тутуновай прамысловасьці колькасьць жанчын-работніц дасягае 65-70 проц. усіх рабочых.

Профэсіянальны рух у Кітаі вельмі слабы. Найбольш распаўсюджаны від арганізацыі — рамесьніцкія аб‘яднаньні, ў якія ўваходзяць гаспадары разам з сваімі рабочымі, і сямейна-радавыя саюзы. І тыя і другія прасьледуюць прымірыцельныя мэты.

Клясовы работніцкі рух толькі пачынаецца. — У клясовых саюзах налічваецца каля 500.000 рабочых.

Рэшта насяленьня складаецца з саматужнікаў, якіх налічваецца некалькі дзесяткоў мільёнаў, з дробных гандляроў, інтэлігэнцыі, буйных абшарнікаў, буржуазіі і г.д.

Як відаць са складу насяленьня, галоўную ролю ў кітайскай рэвалюцыі будзе мець селянін, ад настрояў і задаваленьня якога будзе залежаць лёс падзеяў.

### Кітайская партыя Гоміндан.

Кантонскі ўрад, які можа стаць урадам усяго Злучанага Кітаю, складаецца з правадыроў кітайскае нацыянальнае партыі „Гоміндан“. Гэтая партыя была заснавана кітайскім патрыётам доктарам Сун-Ят-Сэнам (памёр у 1924 годзе) і складаецца з розных соцыяльных элемэнтаў (рабочых, сялян, інтэлігэнцыі, абшарнікаў і г.д.). Найбольшым уплывам у партыі ка-

абшарнік бароніць толькі паноў, аб малазямельных хлеваробах мала дбаець. Да гэтага падаю адзін факт.

Ў маёнтку X ёсьць 15 валок зямлі і толькі 12 каней, у вёсцы У — 14 валок зямлі, а коней 49. Падводы ў нас шарварковыя ў модзе зусім бясплатныя, да валасьці і да школаў дровы вазіць. На падводы выганяюць пачарзе, ад каня. І вось выразна відаць, што мы малазямельныя хлеваробы трудзімся за паноў, бо нан, маючы 15 валок, выяжджаець 12 разоў, а вёска, маючы 14 валок, мусіць даць 49 падводаў, а гэта таму, што ў рады выбіраюць паноў. — Ці-ж ня можна было-б на дастаўку дроў налажыць падатак ад зямлі, і за грошы з гэтага падатку наймаць падводы. Тады беднаму селяніну был-б лепей, бо ён мог-бы зарабіць. Але мы сваё віны ня бачым, а кажам „за паноў мы трудзімся“,— а самі вінаваты.

ЗЫДАР ЗАРАК.

в. Зарачы, 16.III.27.

### Водгук на ліквідацыю „Грамады“.

Жыцьцём беларускага селяніна хваліцца ня прыходзіцца, бо годнага пахвалы нічога няма. У якую-б галіну нашага сялянскага жыцьця мы ні заглянулі і як-бы ні стараліся, а ўсё такі нідзе нічога не знайдзем, каб ім можна было пахваліцца. Сум, безнадзейнасьць нейкая, бедната ў кожнай хаце. Няма нічога дзіўнага, што пры такіх абставінах штодзеннага жыцьця сяляне тысячамі кінуліся ў „Грамаду“, маючы надзею знайсьці там нейкую палёгку свайго сёньняшняга труднага жыцьця. Але надзеі іх ня зьдзейсьніліся. Замест палёгкі, шмат хто з іх адтрымаў па месяцу а то і больш арышту; „Грамаду“ закрылі, вось на гэтым усё і скончылася. І цяпер усё заціхла, ўсе прыслухоўваюцца.

Вядомая рэч, нас, сялян, вельмі цікавіць, што далей будзе, хто і скуль дасьць нам можнасьць спакойна жыць і працаваць, каб не памёрці з голаду? Хто зробіць нашае жыцьцё падобным да жыцьця людзкага, бо дагэтуль яно было і ёсьць вельмі труднае, бадай нялюдзкае. Дык скуль-жа чакаць ратунку, вось пытаньне якое ня выходзе з галавы кожнага селяніна.

Ёсьць у нас беларускія палітычныя партыі, каторыя ставяць сваей мэтай абарону інтарэсаў нашага селяніна, але хто запэўніць, што і з імі ня здарыцца тое, што ўжо здарылася з „Грамадой“, калі яны пачнуць працаваць?...

Думаць што з ліквідацыяй „Грамады“ ў нас на вёсцы раптам усё супакоіцца было-б вельмі недарэчна. Бо трэба ведаць, што галоўнай прычынай узросту „Грамады“ былі ня сымпатыі сялянства да камунізму і не агітацыя розных індывідуумаў з „pod ciemnej gwiazdy“, як кажуць палякі, а беларускі нацыянальны рух, каторы расплыўся па ўсіх глухіх кутках Беларусі, ня маючы магчымасьці сёньня з вядомых прычын у Заходняй Беларусі, выліцца ў адпаведную форму, мімаволі прыняў нібы камуністычную постаць у асобе гэтае-жа самае „Грамады“ па першае, а па другое нягодны матар'яльны стан сялянства і розныя зьдзекі паліцыі і адміністрацыі над апошнім.

Гэты беларускі нацыянальны рух ніякім спосабам сёньня спыніць немагчыма і дзеля таго, што ён ня выклікаи прыпадкова нейкімі агітатарамі, але зроблены самім жыцьцём, гісторыяй, і к таму-ж абапёрты на здаровай народнай тэндэнцыі, захаванай у беларускай сялянскай гушчы. Спосабы, якімі паслугоўваецца ў нас польская паліцыя на вёсцы, змагаючыся з усякімі праявамі беларускага руху, ніякай мэты не дапнуць, а хутчэй пашкодзяць таму, хто іх ужывае.

Паліцэйскія пастарункі былі дагэтуль найлепшымі кузьнямі, ў каторых выкоўваліся першарадныя антыдзяржаўнікі. Ня бачыць гэтага дагэтуль было немагчыма, а калі той, каму трэба, сумысьля не хацеў гэтага бачыць, то рабіў гэта на сваю шкоду. Аб гэтым добра сьведчыць усё сеньняшняе жыцьцё беларускае вёскі.

Дык вось у гэты час, калі наша вёска пасьля грамадоўскага шуму крыху супакоілася і ўважна сочыць, што пасьля гэтай буры настане, трэба ёй памагчы вылезьці з бяды і бедпаты, ў якой яна сёньня апынулася і паказаць просты шлях да сьвятлейшых дзён.

*Чычынка.*

## Аб усім патроху.

Як будзе выглядаць сьвет у 1950 годзе?

Літэратары, вучоныя і тэхнікі, а часам і проста розныя праракавальнікі - яснавіды любяць маляваць абраз агульначалавечае будучыны.

Апошнім часам вядомы ангельскі вучоны вынаходчык прафэсар Low малюе гэтак жыцьцё чалавецтва ў 1950 г.

Як у 1950 годзе містэр Джон у Лёндане будзе чытаць сваю ранешнюю газэту, дык здарэньнямі ў Амэрыцы будзе цікавіцца гэтак-жа сама, як і тым, што робіцца ў яго родным горадзе, таму, што з Амэрыкай можна будзе гаварыць

---

рыстаюцца радыкальныя інтэлігэнты і радыкальная кітайская буржуазія, якім ходзіць аб тое, каб захапіць капіталы і канцэсіі ангельцаў і наогул чужаземцаў і стаць ува ўсім Кітаі панамі палажэньня. Гэтым і тлумачыцца ненавісьць да чужаземцаў, якая зьяўляецца так характэрнай для кітайскіх падзеяў.

### Ідэі Кітайскае Нацыянальнае Рэвалюцыі.

Галоўнымі ідэямі, якія прапаведуець „Гоміндан“ зьяўляюцца: нацыянальная, дэмакратычная і соцыяльная справядлівасьць. Нацыяналізм выяўляецца ў барацьбе за нацыянальнае аб'яднаньне Кітаю і яго незалежнасьць, як палітычную так і эканамічную. Дэмакратызм—у барацьбе за ліквідацыю фэодальных перажыткаў і за роўнасьць усіх станаў, клясаў і грамадзян.

Ідэя соцыяльнае справядлівасьці, пакуль што, выяўлена нявыразна. Для сялян, напрыклад, „Гоміндан“ патрабуе надзяленьня малазямельных і аграрнае рэформы. Да апошніх падзеяў у склад „Гоміндану“ ўваходзіла каля 300.000 сяброў партыі.

* * *

Нацыянальнае і палітычнае адраджэньне кітайскага народу будзе мець вялізарнае значэньне на ток гістарычных падзеяў ня толькі Азіі, а і ўсяго сьвету, бо ажыцьцяўленьне незалежнасьці Кітаю прывядзе з часам да пажару Індыю з яе 300.000.000 насяленьнем і іншыя калёніяльныя і заняпалыя народы, якія таксама будуць змагацца за сваё вызваленьне і за тое, каб стаць побач з культурнымі народамі Эўропы, як роўныя з роўнымі і вольныя з вольнымі.

Падаў *В.*

з найбольшай лёгкасьцю, гэтак, як сягоньня гаворым з кім-нібудзь у горадзе. За крэслам яго будзе знаходзіцца апарат, які дасьць магчымасьць бачыць на адлежнасьць. Тэлевізія будзе тады даступнейшай, як сягоньня звычайны тэлефон для сярэдняга сьмяротніка. Пакой будзе апальвацца электрычнасьцяй, а апал гэты будзе вельмі танны. Чалавек будучыны сплючы будзе магчы электрызавацца, што палепшыць яго здароўе. Будзе магчы ўжываць коскі штучнага сонца, а спосаб гэты будзе і танны і здаровы, дзеля гэтага, будуючы дамы, ня трэ' будзе зьвяртаць гэтулькі ўвагі на пазыцыю ў адносінах да сонца.

Палажэньне жанчын страшэнна зьменіцца. Жанчыны пакінуць турбавацца аб гаспадарцы, бо варэньне электрычнасьцю, электрычны апал і электрычныя апараты для наводжаньня парадку ў хаце паменшаць гаспадыніну працу да найменшае долі. Людзі пакінуць у хаце мыць порце і варыць страву, яда будзе дастаўляцца на тэлефоннае трэбаваньне з агульнае кухні. Жаночая вопратка зробіцца куды практычнейшаю, датарнованаю да жыцьцёвых варункаў.

Самалёты будуць затрымлівацца перад домам, як сягоньня вазакі або самаходы. Палёт у Злучаныя Штаты ці Індыю будзе звычайнаю экскурсіяй, так, як сягоньня якая-нібудзь прагулка чугункаю або самаходам.

Вучоны мяркуе, што ўжо ў працягу 20-ёх гадоў народы вытвараць сабе супольную мову, якая зробіць лягчэйшым узаемнае паразуменьне.

Тэрапія будзе тады тварыць новыя цуды. Трэба думаць, што аб поле дзяцей (хлопчык, ці дзяўчынка?) можна будзе рашаць перад нараджэньнем, а рост чалавека можна будзе рэгуляваць дакладным веданьнем залозаў.

У школах будуць карміць і трактаваць дзяцей гэткім чынам, каб разьвіць у іх пажаданыя асаблівасьці характару. Шмат хваробаў, якія цяпер точаць чалавецтва, будзе гэткім чынам пераможана.

Ня гледзячы на гэта, праз некалькі дзесяткоў гадоў жыцьцё далёка ня будзе раем, таму што вытварацца новыя прычыны для жальбаў і нараканьняў, зьявяцца асаблівыя нэрвовыя хваробы ў рэзультаце большае чуласьці нашых нэрваў і ўзмацненьня гоману ў вялікіх гарадох. На вушах трэ' будзе насіць спэцыяльныя бясьпечнікі. Нашыя ўнукі будуць спажываць сконцэнтрованы кармільны сок, альбо спажыўныя пілюлькі, адначасна пазіраючы на іскравым спосабам адтрымліваныя фільмы страшэнных бітваў і прыслухваючыся праз радыё да водгаласу тае барацьбы, якая будзе разыгравацца на далёкіх землях і морах. Бо разьвіцьцё жыцьця будзе ісьці з прадукцыяй праменьняў сьмерці, бомбаў, напоўненых атрутнымі бактэрыямі і іншых асяродкаў, што нясуць пагібель.

Хто з нас дажыве да 1950 году, той пераканаецца, ці вучоны ангелец кажа праўду.

### Рэзультаты вайны.

Француская часопісь „Journal Officiel" падае страшэнную статыстыку ваенных інвалідаў у Францыі. Паводле гэтае статыстыкі, колькасьць ваенных інвалідаў у Францыі была на 1 студня сёлетняга году: — 404.606 (пакалечаны ногі або рукі), 235,884 (папсованыя лёгкія), 27.281 (пашкоджаныя вочы, з чаго 2.585 зусім сьляпых), 17.730 (пашкоджаныя вушы, з чаго 4.488 зусім глухіх), 8.588 (збрыджаны твар) і 14.402 (разумовыя недахопы). Агулам Францыя выплачвае 700.000 франкаў сваім ваенным інвалідам.

Цыфры страшэнныя!

А гэта яшчэ ня ўсе францускія ахвяры жахоўнае вайны, бо, ня кажучы аб тых, што загінулі на палёх бітваў, статыстыка не ахапляе тысячаў інвалідаў, памёршых ад часу вайны, а лічыць толькі тых, якія засталіся жывымі на 1 студня сёлетняга году.

# СЬМЕХ і ЖАРТЫ.

### ДОБРАЯ РАДА.

— Вось гора, кума, мой мужык ніколі не сядзіць у хаце, а ўсё ў карчму заглядае. Ці не парадзіш, прытрымаць яго?

— Рада ёсьць.

— Якая?

— Зрабеце, кума, ў хаце шынок, дык напэўна мужык у карчму ня пойдзе.

### ГУТАРКА.

— Чаму ты, Ганна, гэткая сумная?

— Бо нядаўна памёр мой мужык.

— Дык, што ты цяпер думаеш рабіць?

— Што думаю, то думаю, але каб ты, Ігнат, быў дагадлівы дзяцюк, то ведаў-бы лепш за мяне, як памагчы майму гору.

### У КРАЎЦА.

— Мне патрэбны фрак, але...

— Калі ласка, ёсьць гатовы.

— Але я ня маю цяпер грошай.

— Дык нічога, я магу пачакаць.

— Узапраўды!?

— З вялікай прыемнасьцю. Як будзеце мець грошы, дык прыходзьце, а я Вам тады прадам.

* * *

— Тата, ў якім горадзе ты нарадзіўся?

— У Вільні, сыночку,

— А мама ў якім горадзе нарадзілася?

— У Наваградку.

— А дзе я?

— У Горадне, дзетачка.

— Глядзі! аж у Горадне. І як гэта мы цяперака сабраліся ў Ашмяне?

## Паштовая скрынка.

Язэпу Жалейцы. Пішэце да нас, калі падыйдзе—згодзімся. Юрыдычныя парады даём толькі сваім падпісчыкам або корэспондэнтам.

М. Хруцкаму. Пішэце — пабачым ці падыйдзе. Журнал, аб якім пытаецеся, ня выходзіць.

Гаротнаму Беларусу. Ня ведаючы Вашага прозьвішча, корэспондэнцыі зьмясьціць ня можам. Прышлеце свой адрэс і прозьвішча.

Т-ву Польскіх Бібліофіляў у Вільні. Памятчэньне Вашага камунікату ў нумары, які выходзіць 8.IV. не дасягне ніякай мэты, дзеля гэтага яго ня друкуем.

Янка Таранка ў Крушніках. На Вашу просьбу, пераданую поэтам Васільком, высылаем усе выйшаўшыя нумары. Чакаем падпіскі.

### ЮРЫДЫЧНАЯ ПАРАДА.

Я. Жалейка ў Заборцах. Судзьдзя рассудзіў правільна. Суд можа зрабіць гэны падзел толькі праз два гады ад часу, калі падана было прашэньне аб падзеле. Падаваць скаргу на яго прыгавар няма сэнсу. Найлепш, па добрай згодзе падзяліцца самым, альбо прасіць суседзяў, каб яны падзялілі.

---

РАЗГАДКІ ЗАГАДАК, ЗЬМЕШЧАНЫХ у № 5 «Б. Д.»:

1) Хмель, 2) Соль, 3) Дождж.

Рэдактар-выдавец Ф. УМЯСТОЎСКІ

Выд. Т-ва „Pogoń" Друк. „Pax", вул. Сьв. Ігната 5.